РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА "Рух "За Свабоду". Выпуск № 4 травень 2012



# Першы юбілей




**Руху "За Свабоду" – пяць гадоў. А ў беларускай жа палітыцы год ідзе за два, а то і за тры. Пацверджаннем ненармальнасці ўмоваў грамадска-палітычнай дзейнасці ў нашай краіне стала наша спроба адзначыць першы юбілей сяброўскай імпрэзай. Ну і натуральна, адзначаем пяцігоддзе не толькі віншаваннямі ды пажаданнямі, але і аналізам таго, што зроблена.**

*"Мы ставілі перад сабой мэту аб'яднаць як мага больш людзей, не заангажаваных у палітычных партыях, для грамадскай, грамадзянскай працы. Гэтыя людзі выходзілі з пратэстамі на вуліцу пасля выбараў у 2006 годзе. На плошчы ж сваю нязгоду з фальсіфікацыямі выказвалі грамадзяне, 90% якіх не знаходзіліся ні ў палітычных партыях, ні ў грамадскіх аб'яднаннях"*, – кажа старшыня Руху **Аляксандр Мілінкевіч**.

Паводле яго слоў, за пяць гадоў дзейнасці Руху, вядома, не ўсё ўдалося: *"На плошчы было больш людзей, чым адна тысяча, якая знаходзіцца ў арганізацыі. Але ўсё ж нам удалося зрабіць нямала"*.

Мілінкевіч нагадаў, што арганізатары Руху пачыналі дзейнасць з праваабарончай працы. *"Мяркую, нам многае ўдалося зрабіць для абароны людзей, якія выйшлі на плошчу ў 2006 годзе. З гэтай працы ўзнікла праграма Каліноўскага. Яна і сёння працягвае існаваць"*, – сказаў ён. І падкрэсліў, што гэта праграма дапамогі студэнтам з'яўляецца самай вялікай сярод такіх праграм Еўрасаюза. *"Фактычна ўсе, каго ўлада рэпрэсуе ў ВНУ і пераследуе за палітычную і грамадзянскую апазіцыю, маюць магчымасць пачаць або прадоўжыць вучобу ў Польшчы"*, – сказаў Аляксандр Мілінкевіч.

Паводле слоў Мілінкевіча, Рух сваёй асноўнай мэтай ставіць задачу як мага больш *"наблізіць Беларусь да Еўропы, садзейнічаць узнікненню ў краіне праеўрапейскіх настрояў". "Для гэтага мы рабілі і робім такія інфармацыйна-адукацыйныя праграмы, як "еўрапейскія клубы". У нас ёсць ва ўсіх абласных гарадах такія ж клубы, на пасяджэнні якіх прыходзяць у тым ліку шмат студэнтаў, каб падыскутаваць пра новыя шляхі развіцця Беларусі, як праходзіла трансфармацыя ў краінах – новых сябрах ЕС, якія ў іх былі поспехі і няўдачы"*, – сказаў старшыня Руху "За Свабоду" ў інтэрв'ю інфармацыйнаму агенцтву БелаПАН з нагоды пяцігоддзя.

Як зазначыў Аляксандр Мілінкевіч, звычайна "*мы ўсе гаворым пра тое, што ўлада дрэнная, што яна штосьці робіць не так, што ёсць дыктатура Лукашэнкі. Але мы таксама хацелі зрабіць нешта сваё, памарыць пра будучыню Беларусі, праводзячы сустрэчы з экспертамі ў рэгіёнах. У межах "Народнай праграмы" мы прапаноўваем свае шляхі вырашэння праблем у сферы эканомікі, фінансаў, аховы здароўя, іншых розных сфер"*.

Мілінкевіч падкрэсліў, што Рух стараўся, каб падтрымліваць і невялікія лакальныя ініцыятывы: *"Мы шукалі людзей, якія маглі б вырашыць канкрэтную сацыяльную праблему ў невялікіх гарадах, дапамагалі людзям у самаарганізацыі. Развіццё і самаарганізацыя грамадзянскай супольнасці, еўрапеізацыя Беларусі з'яўляюцца сёння нашымі галоўнымі кірункамі дзейнасці"*.

**Працяг на с. 8**

# Волі і розуму!

Пётр КУЗНЯЦОЎ

**Да любога юбілею мы заўсёды падыходзім ў добрым настроі, і больш за ўсё хочацца ў такі дзень казаць радасныя словы і бомкаць келіхамі. Руху “За Свабоду” - 5 гадоў! Няшмат, вядома, але ўжо нешта. І таксама хочацца радасна ўздымаць келіхі-куфлі ды і выпіваць - няхай не за перамогу, бо да перамогі яшчэ вельмі далёка. Хоць бы за поспех. За тое, што выжылі...**

У 2006 годзе, калі арганізацыя толькі пачынала свой шлях, была надзея, што менавіта яна, што з’явілася на хвалі ажыўлення ў грамадстве пасля прэзідэнцкай кампаніі ў тым годзе, стане сапраўдным лакаматывам перамен, які аб’ яднае ўсе здаровыя грамадскія і палітычныя сілы і дамажацца нарэшце хоць нейкіх зрухаў у Беларусі.

Ці атрымалася гэта?

Калі мы не будзем аб’ектыўна самі сябе ацэньваць, то і нармальных вынікаў ніколі не атрымаем. Таму аб’ектыўна скажам: не, не атрымалася. А ці магло атрымацца? Гэта пытанне ўжо зусім з іншай оперы.

Не пакрыўлю душой, калі скажу, што Рух “За Свабоду” ў апошні час знаходзіцца ў крызісе. Крызіс гэты, хутчэй за ўсё, абумоўлены адсутнасцю стрыжнёвай арганізацыйнастваральнай ідэі. “Дамагчыся переменаў!” – гэта занадта абстрактная ідэя. Мы дамагаемся зменаў кожны дзень. Кожны – па-свойму. Перамены гэтыя адбываюцца штодня. Вонкава – гэта перамены да горшага: улада закручвае гайкі, а апазіцыя драбніцца і драбнее. Унутрана – гэта перамены да лепшага.Таму што кожны дзень хоць бы адзін чалавек у краіне, але разумее з поўнай яснасцю: Беларусь ідзе не так і не туды.

Але гэтыя перамены адбываюцца як з намі, так і без нас, і для іх зусім не патрэбна арганізацыя.

Тады, пяць гадоў таму, мы былі ўпэўненыя: на наступных прэзідэнцкіх выбарах адзіным кандыдатам ад апазіцыі будзе лідар дэмакратычных сіл Аляксандр Мілінкевіч, і мы будзем змагацца за перамогу. У гэтым была наша ідэя, і, пакуль яна была жывая, Рух развіваўся, пашыраўся і мацнеў. 2010 год разбурыў гэтую схему, як картачны дамок. Няздольнасць большасці лідараў паслядоўна рэалізоўваць адзіную стратэгію, эмоцыі і амбіцыі прывялі да таго, што на палітычным небасхіле з’явілася адразу з дзясятак новых “зорак”. Якога яны былі маштабу і кшталту можна зразумець, прааналізаваўшы вынікі той кампаніі, але ці ёсць нам сэнс рабіць гэта ў “юбілейным” артыкуле?



*Калі мы не будзем аб’ектыўна самі сябе ацэньваць, то і нармальных вынікаў ніколі не атрымаем*

У “юбілейным” артыкуле ёсць сэнс сказаць пра тое, што ўвесь гэты час мы рабілі ўсё, што маглі. Рух “За Свабоду” працаваў з людзьмі – толькі лідар арганізацыі Аляксандр Мілінкевіч здзейсніў амаль дзве сотні паездак у рэгіёны, дзе сустракаўся з грамадзянамі. Такой працай не можа пахваліцца больш ніводны беларускі палітык. Рух займаўся сацыяльнымі праектамі, рэальна паляпшаючы жыццё людзей: сёння гэты вопыт капіююць многія. Рух развіваў сеткі рэгіянальных распаўсюднікаў інфармацыі, і гэта тычыцца як друкаванай прадукцыі, так інструментароў працы ў інтэрнэце.

Дзікія выбары 2010 года, вядома ж, не паставілі крыж на ўсёй гэтай працы. Усе створанае існуе і функцыянуе дасюль. Няўдзел Руху ў кампаніі ў якасці самастойнай адзінкі было непрыемным, вельмі хваравітым, небезальтэрнатыўным крокам. “За Свабоду” ніколі не ставіў сабе за мэту канкурэнцыю ўнутры дэмакратычнага лагера, а фармат, пры якім у якасці кандыдатаў удзельнічаюць амаль 10 апазіцыянераў, менавіта такую канкурэнцыю і прадугледжваў. Мы сышлі ад гэтай канкурэнцыі – місія Руху ў іншым.

Мы сышлі ад гэтай унутрывідавай канкурэнцыі, захавалі твар, але разам з тым сутыкнуліся з тым крызісам, пра які вядзецца гаворка. І той факт, што ў апошні час арганізацыя некалькі меней актыўная, тлумачыцца менавіта гэтым выклікам, неабходнасцю адказаць на пытанне: “*З чаго складаецца наша сённяшняя, вельмі канкрэтная і максімальна прадметная мэта?*”.

Паўтаруся, перамены ў Беларусі – мэта занадта абстрактная. Перамены ў Беларусі ўсё роўна адбудуцца. З намі або без. Наша задача толькі ў тым, каб іх наблізіць, у тым, каб гэта адбылося як мага хутчэй, і для нас сёння як ніколі актуальным ёсць пытанне: як гэтага дамагчыся і што мы можам для гэтага зрабіць?

**Працяг на с. 3**

# Волі і розуму! (працяг)

Працяг са с. 2

Сёння ў Беларусі ніхто не зможа даць адназначнага адказу на гэтае пытанне. Ніхто. Таму няма адзінства ў апазіцыі, таму столькі эмоцый выкідваецца на публіку, і гэта – пры амаль поўнай адсутнасці канструктыву. У палітычных партый усё і прасцей, і складаней адначасова. Яны ствараюцца для таго, каб прасоўваць у грамадства сваю ідэалогію. Ім прасцей таму, што яны могуць гэта рабіць нягледзячы ні на што: ідэалогія, вось, ёсць, калі ласка, мы вам яе вытлумачылі. А складаней ім праз тое, што сама па сабе ідэалогія нікому не патрэбна тады, калі ў краіне існуе жорсткі персаналісцкі рэжым.

Класічным грамадскім арганізацыям і прасцей, і складаней адначасова. Прасцей ім таму, што яны могуць займацца сваёй грамадскай працай, нягледзячы ні на што: вось, ёсць праблема пэўнай мэтавай групы, давайце яе вырашаць. Складаней ім таму, што сённяшняя ўлада любую, незалежную ад іх грамадскую ініцыятыву разглядаюць як наяўную або патэнцыйную пагрозу. І ў выніку ўся грамадзянская супольнасць адчувае на сабе ўсе тыя ж цяжкасці і праблемы, якія, здавалася б, павінны былі б адрасавацца толькі тытульнай палітычнай апазіцыі.

Ніхто не зможа сёння даць адназначнага адказу на пытанне: "Як наблізіць перамены і якое наша месца ў гэтым працэсе? Але далёка не пра кожную арганізацыю, як пра Руху "За Свабоду", крычаць на кожным куце, што яна ў крызісе.

Таму што Рух працягвае заставацца адной з цэласных арганізацый беларускай грамадзянскай супольнасці, нацэленай на перамены, дэмакратызацыю і еўрапеізацыю краіны. Нягледзячы на ўсе складанасці, зніжэнне актыўнасці і водгуку з боку простых грамадзян праца працягваецца.

У 2011 годзе ў Беларусі набыў шырокую вядомасць праект "Народная праграма", у межах якога простыя беларусы пры дапамозе прызнаных экспертаў самі ствараюць бачанне новай дэмакратычнай Беларусі. Паказальна, што па выніках незалежных сацыялагічных даследаванняў, больш за 40% беларусаў ведаюць пра "Народную праграму" – гэта вельмі шмат ва ўмовах інфармацыйнага гета, у якім традыцыйна знаходзяцца беларускія няўрадавыя арганізацыі.

*Перамены ў Беларусі ўсё роўна адбудуцца. З намі або без. Наша задача толькі ў тым, каб іх наблізіць*

Ва ўсіх абласцях Беларусі сёння працуюць Еўрапейскія клубы – цэнтры прасоўвання еўрапейскіх каштоўнасцяў і еўрапейскай будучыні Беларусі. Прайшлі дзясяткі сустрэч, створана і распаўсюджана мноства інфармацыйных матэрыялаў, створаны беларуска-еўрапейскія бібліятэкі.

Гэта – толькі самыя яркія прыклады. Нягледзячы на крызіс, згаданы вышэй, гэта натхняе аптымізмам.

Таму што гэты крызіс – палітычны. Ён выкліканы тым, што сёння не бачыцца прамога палітычнага шляху да дэмакратычных пераменаў у Беларусі.

І, напэўна, справа тут нават не ў Лукашэнку. Лукашэнка і яго методыка задавальнялі большасць беларусаў да самага апошняга часу – да эканамічнага крызісу. Ён перастаў быць прэзідэнтам большасці толькі пасля таго, як перастаў забяспечваць усім чарку, скварку і ўжываную іншамарку.

Ці магло такое грамадства патрабаваць і дамагацца ДЭМАКРАТЫЧНЫХ пераменаў? Пытанне рытарычнае. Не магло. Ці магла апазіцыя пры такім раскладзе праз палітыку змяніць сітуацыю і дамагчыся пераменаў? Пытанне такое самае рытарычнае. Адсюль і крызіс, адсюль і адсутнасць адказаў на пытанні, адсюль – эмоцыі і амбіцыі ўнутры апазіцыйнага гета.

Самае галоўнае – захоўваюцца структуры арганізацыі. У гэтых структурах – жывыя і крэатыўныя людзі, якія шукаюць выхадаў, рашэнняў, генеруюць ідэі, распрацоўваюць канцэпцыі і спрабуюць рэальна працаваць нават у сітуацыі, калі немалая частка "апазіцыі" ужо даўно скацілася да імітацый, да таго, каб лішні раз мільгануць на старонках незалежных інтэрнэт-рэсурсаў.

Можна і трэба глядзець з аптымізмам на гэтыя структуры, на гэтых людзей, на гэтыя ідэі, якія ажыццяўляюцца і паціху мяняюць наша грамадства, якое яшчэ зусім нядаўна было цалкам задаволенае Лукашэнкам і ягонай палітыкай "чаркі, скваркі і ўжыванай іншамаркі". Калі зменіцца настрой большасці, калі большасць рэальна захоча жыць свабодна, у нармальнай сучаснай дзяржаве, гэта ўжо большасць, паверце, знойдзе спосаб вырашыць гэтую праблему. Толькі б гэта была большасць...

Цешыць, што мы нягледзячы ні на што ў шыхце – і знаходзім новыя формы працы і новыя рашэнні. Ужо само гэта – нядрэнны вынік. І ў пяцігадовы юбілей можна толькі пажадаць, каб Рух "За Свабоду" выйшаў на новы ўзровень, аб'яднаўшы ўсе свае ініцыятывы сапраўды здзяйсняльнай і важнай для Беларусі ідэяй, вельмі прыкладной і рэальнай. І калі ўнутры арганізацыі ёсць праблемы, то іх трэба, не спадзеючыся, што крывая неяк выведзе, абмяркоўваць і вырашаць, трэба нешта мяняць, рэфармаваць, асвяжаць. Для гэтага патрэбныя воля і розум.

Воля і розум! Хай яны суправаджаюць усе наступныя гады не толькі Рух "За Свабоду", але і ўсіх беларусаў!

# Аляксандр Мілінкевіч: Ад ідэалогіі “чаркі і скваркі” настануць пахмелле і пякотка



**Лідар Руху “За Свабоду” Аляксандр Мілінкевіч адказаў на пытанні чытачоў “Народнай волі”, якія былі адрасаваная да яго праз сайт і электронную пошту газеты, у лістах да рэадакцыі, а таксама агучаныя праз тэлефон. На жаль, уласна тэлефонная “прамая лінія” з Мілінкевічам сарвалася праз няшчасны выпадак (пералом рукі і некалькі аперацый). Яна адбудзецца пасля адужвання.**

Лідар Руху, як і абяцаў адказаў, на абсалютна ўсе пытанні, у тым ліку з падвохам. Бюлетэнь Руху праз дэфіцыт месца падае частку адказаў на пытанні.

**– Некалькі гадоў таму чытаў у “Народнай волі”, што вы адвялі цяперашняй уладзе “максімум 2–3 гады. А мінула ўжо пяць. Памыліліся ў падліках? Увогуле, як сапраўды палітык павінен прызнаваць свае памылкі?**

– Палітык не можа не быць аптымістам. І прагнозы часта гучаць і мусяць гучаць як лозунгі. Калі ж удавацца ў паліталагічны аналіз, то пры адсутнасці выбараў як такіх у Беларусі прагнозы – няўдзячная справа. А памыліўся я ў вышыні парогу цярплівасці і інертнасці беларусаў, хацеў сваім аптымізмам знізіць яго. Час быў змарнаваны і таму, што апазіцыя адмовілася ад выбараў адзінага лідара. У 2007 годзе на Кангрэсе Аб’яднаных дэмакратычных сіл стаўка была зроблена на ратацыйны прынцып старшынства. У выніку АДС развалiлiся, а ў 2010 годзе мы ўжо назіралі парад кандыдатаў ад апазіцыі.

**– Паважаны Аляксандр Уладзіміравіч, некалькі год таму прайшоў зладжаны вамі “Еўрапейскі форум”. Праграма дзеянняў па “еўрапеізацыі” Беларусі, якая на ім была прынята, была надзвычай змястоўная і маштабная. На жаль, нічога з таго, што анансавалася і абяцалася, не зроблена. Як вы гэта можаце патлумачыць?**

– Магу шмат распавядаць пра канкрэтныя праграмы навучання для беларускай моладзі, пра інфармацыйныя кампаніі, пра перавагі еўраінтэграцыі, пра дзейнасць нашых еўрапейскіх клубаў па ўсёй Беларусі, пра “Народную праграму”, пра якую за адносна кароткі час ужо ведаюць 40% насельніцтва.

З іншага боку, мы яшчэ, як многім марыцца, не ў Еўрасаюзе, не ў Шэнгенскай прасторы і не ў еўразоне. На Беларускім еўрапейскім форуме, які прайшоў у лістападзе 2009 года, ставілася больш рэальная стратэгічная задача – еўрапеізацыя. Але ж зразумела, што еўрапеізацыя – гэта працэс. І працэс, улічваючы неспрыяльныя чыннікі – ад ментальных да геапалітычных, няпросты і няхуткі.

Да таго ж пасля пазітыўных зрухаў, хай сабе і нязначных (вызваленне палітвязняў у 2008 годзе і некаторая лібералізацыя выбарчай кампаніі), адбылося згортванне дыялогу з Еўрасаюзам і пагружэнне ў неаімперскія праекты Крамля. Натуральна, ажыццяўленню мэт, вызначаных на Беларускім еўрапейскім форуме, пашкодзіў зрыў дыялогу з Захадам.

Але і ў гэтых умовах маштабы праеўрапейскіх настрояў беларусаў параўнальныя з прарасійскімі. А самае галоўнае – Еўропа на нас не махнула рукой. Цяпер вось распрацоўваецца адмысловы “план Маршала” для Беларусі. І Рух “За Свабоду” лічыць гэта ў тым ліку сваёй заслугай.

**– Аляксандр Уладзіміравіч, зразумела, што палітык павінен прыстойна выглядаць. Часта мяняеце гардэроб?**

Працяг на с. 5-7

Пачатак на с.4

**Колькі каштуе ваш касцюм? І як мне, такой жа беспрацоўнай, як і вы, зарабіць на такі выхадны касцюмчык?**

– Я без ажыятажу стаўлюся да вопраткі. Не шыкую. Але магу сабе дазволіць прыстойнае адзенне. У мяне некалькі касцюмаў, у асноўным беларускай вытворчасці – прыстойныя вырабы. Я дастаткова зарабляю. І заўсёды падаю дэкларацыю аб даходах у падатковую інспекцыю. Не буду хаваць гэтай інфармацыі і ад чытачоў “Народнай волі”: у 2011 годзе зарабіў каля 16 тысяч еўра – выдаў кніжку ў Чэхіі, чытаў лекцыі ў Польшчы ды Германіі.

**– Пытанне кароткае: што павінна здарыцца, каб вы зноў прынялі ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах?**

– У першую чаргу павінны адбыцца сапраўдныя выбары. А з іншага боку, я гатовы саступіць маладым.

**– Якім чынам Аляксандр Мілінкевіч збіраецца прыйсці да ўлады?**

– Галоўнае – каб улада вярнулася ў рукі народа. А годных асоб, якія могуць яго прадстаўляць на прэзідэнцкай пасадзе, у нас хапае.

**– Аляксандр Уладзіміравіч, а можа, усё ж такі наладзіць байкот гэтаму фарсу пад назвай “выбары”? Якое можа быць волевыяўленне людзей ва ўмовах дыктатуры?**

– Не мае сэнсу дыскусія пра ўдзел-няўдзел, пакуль мы не вызначылі мэты кампаніі. Калі мэта – паказаць уладзе кукіш у кішэні, прадэманстраваць, што апазіцыя маральная, а рэжым – не, то байкот падыходзіць. Але для мяне найбольш важна адказаць на галоўнае пытанне, якое задаюць людзі: “Вы нам расказваеце, што Лукашэнка кепскі. А мы і так ведаем. Вы скажыце, чаму з вамі жыццё будзе лепшым?” Для таго, каб сфармуляваць адказ на гэтае пытанне, каб у людзей з’явілася вера ў перамены, нам трэба выбіраць удзел у выбарах з умовамі. Для такой мэты байкот недарэчны.

Нам важна давесці, што ў краіне ёсць годныя людзі, якія вартыя ўвайсці ў парламент і спрыяць вывaду краіны з крызісу. А гэта немагчыма зрабіць без размоў з насельніцтвам, якой бы маральнай ні была абструкцыя ў дачыненні да дыктатуры. Мы лічым, што важна выкарыстаць для гэтага чарговую выбарчую кампанію,

*Галоўнае – каб улада вярнулася ў рукі народа. А годных асоб, якія могуць яго прадстаўляць на прэзідэнцкай пасадзе, у нас хапае*

зняўшыся перад галасаваннем, калі ў краіне на той момант будуць палітвязні. Нарэшце, звярніце ўвагу на вынікі сакавіцкага апытання Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў: ідэю байкоту падтрымлівае 10% апытаных. Наша грамадства ўсё яшчэ “спіць”, а калі да сну яго будзе клікаць і апазіцыя, дык праспім і людзей, і краіну!

**– Хто вядзе рэй у вашай сям’і?**

– У нашай сям’і сапраўды дэмакратыя, якая прадугледжвае не толькі самастойнасць у прыняцці рашэнняў, але і прыслухоўванне да меркаванняў партнёра-сябра. Як я не ўяўляю сваю жонку Іну Кулей ўсяго толькі хатняй гаспадыняй, валадаркай баршчу, гэтак і ёй не патрэбны муж-падабцаснік. Я прыслухоўваюся да жонкі яшчэ і таму, што яна добры аналітык, паспяховы і дасведчаны грамадскі лідар.

**– Спадар Мілінкевіч, добры дзень! Пытанне, якое мала тычыцца палітыкі, але, спадзяюся, вы не палічыце заганным адказаць. Ведаю, што вы гуманітарый, а значыць, схільны да таго, каб сэрцам пераасэнсоўваць падзеі жыцця. Як вы знаходзіце выйсце сваёй творчай энергіі? Вось, нават спадары Рубінаў і Фядута пішуць вершы. Магчыма, і вы захапляецеся паэзіяй?**

– Я фізік. У родным Гродне мяне многія лічаць гісторыкам. А па душы, можа быць, і сапраўды больш гуманітарый. Мне даводзілася шмат займацца культурніцкімі і гістарычнымі даследаваннямі. Разам з калегамі знайшоў пахаванне апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, рэстаўраваў найстаражытнейшы ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе гродзенскі вежавы гадзіннік.

І маё захапленне – краязнаўства. Ствараю разам з мясцовымі жыхарамі ў родных Берштах, што на самай-самай мяжы з Літвой, этнаграфічны музей.

**– Не за гарамі парламенцкія выбары. Чаму нідзе не каментуецца метад байкоту выбараў ад Гары Паганяйлы? Некалі ён рэкамендаваў ісці на выбары, але палову бюлетэня пакідаць сабе…**

– Добрых ідэй шмат. Вось і ідэя з распалавіньваннем, парваннем бюлетэня – яркая і сэнсоўная. Але вялікая праблема – у рэалізацыі. Для плёну такой паліттэхналагічнай кампаніі патрэбна маштабная электаральная мабілізацыя. У сённяшніх медыйных умовах, пры цяперашнім стане апазіцыі мы зможам ангажаваць на такі бюлетэневы пратэст хіба самую палітычна актыўную публіку.

Працяг на с. 6-7




Аляксандр Мілінкевіч на Еўрапейскім форуме вітаецца з журналістам “Белсата” (Мінск, 14 лістапада 2009 г.)

# Ад ідэалогіі “чаркі і скваркі”...(працяг)

Пачатак на с. 4-5

**– Спадар Аляксандр, якім вы бачыце сцэнарый збліжэння Беларусі і Еўрапейскага Саюза? Якімі шляхамі можа праходзіць гэты працэс? Што трэба рабіць тым, хто хоча наблізіць час, калі Беларусь стане паўнавартнасным сябрам ЕС?**

– Сцэнарый залежыць ад нас з вамі. Калі б да ўлады прыйшлі праеўрапейскія палітыкі, то еўраінтэграцыя стала б прыярытэтам знешняй палітыкі. Хаця перспектыва Беларусі стаць краінай-удзельніцай Еўрасаюза – доўгатэрміновая.

*Пры спрыяльным развіцці падзей у навінах сусветных інфармацыйных агенцтваў мы маглі б цяпер чытаць: “З 1 ліпеня 2012 года Беларусь увойдзе ў склад Еўрасаюза”.*

Можна толькі шкадаваць пра страчаныя гады. Пры спрыяльным развіцці падзей у навінах сусветных інфармацыйных агенцтваў мы маглі б цяпер чытаць: “З 1 ліпеня 2012 года Беларусь увойдзе ў склад Еўрасаюза”.

Нам неабходна не толькі прывесці беларускае заканадаўства ў адпаведнасць еўрапейскім стандартам, зрабіць структурныя палітычныя і эканамічныя рэформы, але і, што самае галоўнае, значна ўзмацніць праеўрапейскія настроі ў грамадстве.

**– Чаму вы супраць эканамічных санкцый датычна Беларусі?**

– Можна было б весці дыскусію пра шырокія эканамічныя санкцыі, калі б:

*Еўрасаюз адначасова панізіў кошт віз;*

*стварыў магчымасці для працаўладкавання беларусаў;*

*ля турмаў тысячы беларусаў патрабавалі вызвалення палітвязняў;*

*у большасці партый было не па некалькі сотняў, а па шмат тысяч актывістаў;*

*да нас масава ішлі людзі, і мы сталі на парозе ўтварэння арганізацыі накшталт польскай “Салідарнасці”;*

*беларусы не былі настолькі русіфікаваныя і размаўлялі б па-беларуску.*

Сённяшнія візавыя і кропкавыя эканамічныя санкцыі – гэта справядлівая маральная рэакцыя ЕС на рэпрэсіі супраць іншадумцаў. Але я супраць шырокіх эканамічных санкцый, бо яны сапраўды найперш закрануць інтарэсы простых людзей. А гэта ў сваю чаргу негатыўна адаб’ецца на праеўрапейскіх настроях беларусаў.

Тых, хто супраць эканамічных санкцый і за дыялог, час ад часу называюць прававднікамі інтарэсаў рэжыму. Але ў барацьбе з дыктатурай, з Лукашэнкам, часта асабістай, нельга забывацца пра нацыянальныя інтарэсы, пра Беларусь, у рэшце рэшт.

Што мы атрымалі пасля зрыву палітыкі паступовага збліжэння з аб’яднанай Еўропай? Як мінімум аслабленне эканамічнага суверэнітэту. Свядома ці несвядома, у змагарнай інерцыі многія фактычна працуюць на прасоўванне ў Беларусь чужых неаімперскіх інтарэсаў. А гэты працэс можа стаць незваротным. Таму ў якасці альтэрнатывы наркатычнаму падсілкаванню таннымі газам і нафтай для хворай беларускай эканомікі вельмі важным лічу мадэрнізацыйны план з боку Еўрасаюза – своеасаблівы “план Маршала”.

**– Ці патрэбны нам рэферэндум з нагоды будаўніцтва АЭС?**

– Праект АЭС нібыта меў на мэце зменшыць нашу энергазалежнасць ад Масквы. Але павялічвае яе да крытычнага ўзроўню. У дадатак будзем яшчэ і прывязаны да ўранавага паліва ўсходняй суседкі, бо іхняя станцыя да яго прыстасавана. Нарэшце, будуем за пазычаныя ў Расіі ж грошы, вялікія грошы. Розлічвацца – нашым дзецям.

*У барацьбе з дыктатурай, з Лукашэнкам, часта асабістай, нельга забывацца пра нацыянальныя інтарэсы, пра Беларусь, у рэшце рэшт*

Па сутнасці, Расія нам, як кажуць, “уцюхала” сваю АЭС, скарыстаўшыся разрывам адносін з Захадам і пагарашэннем эканамічнага становішча, якое пагражае палітычнай трываласці рэжыму.

Экологі, грамадскія актывісты ўздымалі пытанне пра рэферэндум і АЭС. Аднак рашэнне пра з’яўленне беларускай атамнай станцыі было прынята нават без грамадскага абмеркавання. Хаця такое пытанне пасля Чарнобыля павінна было б вырашацца менавіта праз рэферэндум. Абсалютна, спадарыня Дзіяна, тут з вамі згодны.

Працяг на с. 7


Аляксандр Мілінкевіч з жонкай Інай Кулей

# Ад ідэалогіі “чаркі і скваркі”...(працяг)

Пачатак на с. 6

Сябры Руху “За Свабоду” ў Горках і Астраўцы праводзілі шырокія кампаніі за нацыянальнае публічнае абмеркаванне пытання пабудовы АЭС у Беларусі.

Нагадаю, у артыкуле 18 Канстытуцыі чытаем: “Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз’ядзернай зонай”.

**– Гляджу на ваша фота ў “Народнай волі” і думаю: Мілінкевіч, калі ты паголішся? У такім узросце так апусціцца...**

– Ну, апусціўся я, як вы кажаце, даўно – адпусціў абараду пасля абароны кандыдацкай дысертацыі ў 1976 годзе. А наогул шмат жанчын, а галоўнае – мая жонка, кажуць, што мне пасуе. Так што, застануся з барадой.

**– Як вы ставіцеся да ідэі сабраць Усебеларускі народны сход і абмеркаваць пытанне імпічменту Лукашэнкі?**

– У прынцыпе, як да такой ідэі стаўлюся пазітыўна. Сапраўды шмат пытанняў, якія трэба абмяркоўваць ўсенародна. І галоўнае, на маю думку, пытанне – адстойванне незалежнасці Беларусі. Нарэшце, гэта павінен быць прадстаўнічы і дзеяздольны сход.

Нельга дапусціць, каб такі статус мерапрыемства з заяўленым волевыяўленнем народа быў дэвальваваны прыняццем якой-небудзь чарговай дэкларацыі, за якой ўсё пойдзе так, як і было. Усебеларускі народны сход трэба правесці так своечасова і так дарэчы, каб ён стаў рухавіком падзей на шляху да пераменаў.

**– Скажыце, калі нарэшце наша так званая апазіцыя прыйдзе да нейкага адзінага меркавання? Вельмі балюча чытаць, што яны, як казлы, бадаюцца адзін з адным, ужо нават да выспяткаў дайшло! Нават брыдка становіцца ад гэтага... Я прыхільнік Саннікава, перажываю за Казуліна. Калі ж апазіцыя аб’яднаецца і будзе выступаць адзіным фронтам?**



Аляксандр Мілінкевіч сустракаецца з людзьмі падчас паездак па рэгіёнах у 2008 годзе

– Разумею вашы перажыванні. Абсалютна згодзен. Сапраўды, для апазіцыі аб’яднацца вельмі важна. Гэта пытанне іміджу і патэнцыялу ў вачах выбаршчыкаў.

Што тычыцца перспектыў аб’яднання, магу адказаць толькі за сябе і за Рух “За Свабоду”: мы, безумоўна, выступаем за адзіны фронт дзеянняў беларускай апазіцыі. І Рух “За Свабоду” ніколі не ўдзельнічаў і не будзе ўдзельнічаць у нейкіх разборках унутры апазіцыі. Нават калі нас паліваюць брудам – мы не адказваем.

> *Па сутнасці, Расія нам “уцюхала” сваю АЭС, скарыстаўшыся разрывам адносін з Захадам і пагарашэннем эканамічнага становішча, якое пагражае палітычнай трываласці рэжыму.*

**– Аляксандр Уладзіміравіч, чаму вы так слабенька дабіваецеся адмены для беларусаў віз у ЕС і нічога для гэтага не робіце? Патэлефануйце сваёй сяброўцы Меркель і сябру Нікаля, няхай адменяць.**

– Адмена віз была б самай моцнай санкцыяй у падтрымку дэмакратыі ў Беларусі. Праеўрапейскія настроі ў нашай краіне праз некалькі гадоў сталі б дамінуючымі. І на сустрэчах з лідарамі еўрапейскіх краін я пра гэта кажу. Аднак такі варыянт з адменай віз у аднабаковым парадку практычна нерэальны, бо такое выключэнне патрабуе абыходу шэрагу працэдур. Куды больш рэальная адмена платы за візы, хаця б частковая для ўсіх грамадзян Беларусі або поўная для моладзі да 25 гадоў.

**– Беларускі народ на 70-80 адсоткаў абыякавы да чужых праблемаў. Які палітык, на вашую думку, зможа аповесці ТАКІ народ за сабой? Ці можаце вы гэта зрабіць?**

– На жаль, многія ў нас нават да сваіх праблемаў ставяцца недапушчальна абыякава або празмерна памяркоўна. Але я не згодны з тым, што беларусы – гэта нейкі безнадзейны народ. Вось калі Лукашэнка ў час крызісу сказаў, што яму, бачыце вы, сорамна за беларусаў, мне стала крыўдна за нас усіх. Так, у нас хапае ментальных наступстваў таталітарнай і каланіяльнай спадчыны. І якраз віна ўлады ў тым, што яна не дапамагае народу пазбаўляцца ад гэтага, а наадварот, кансервуе ці нават культывуе! А павесці беларусаў за сабой зможа палітык, які будзе цярплівы да гэтых праблемаў і зможа знайсці патрэбныя словы, каб народ захацеў пазбавіцца ад шораў на вачах і разрухі ў галовах.

Ад ідэалогіі “чаркі і скваркі” рана ці позна наступяць пахмелле і пякотка. І вось тады адбудзецца ідэнтыфікацыя беларусамі сябе як нацыі – беларускай і еўрапейскай.

# Першы юбілей (працяг)

Пачатак на с. 1

20 траўня рухаўцы хацелі на адной з баз адпачынку каля Мінска адзначыць пяцігоддзе арганізацыі. Аднак за тры дні да мерапрыемства адміністрацыя базы адпачынку ў аднабаковым парадку скасавала дамову.

Нагадаем, што Рух "За Свабоду" спрабаваў легалізавацца ад вясны 2007 году. Устаноўчыя канферэнцыі праводзіліся чатыры разы, па выніках якіх перадаваліся ўсе неабходныя для рэгістрацыі дакументы ў Міністэрства юстыцыі Беларусі. Першая ўстаноўчая канферэнцыя адбылася 20 траўня 2007 году – гэтую дату ў Руху "За Свабоду" і лічаць днём заснавання. Рэгістрацыйнае пасведчанне было атрымана з чацвёртай спробы 17 снежня 2008 года.

*"Палітычнай часткай праграмы павінна было стаць хіба што пашыранае пасяджэнне Рады Руху, на якім планавалася прааналізаваць нашу дзейнасць за гэтыя пяць гадоў"*, – распавядае намеснік старшыні Руху "За Свабоду" **Юрась Губарэвіч**.

Рух меў з базай адпачынку дамоўленасць, пацверджаную гарантыйным лістом. *"Але неспадзявана нам паведамілі, што на выхадныя на базу прыедуць на нейкае мерапрыемства дзеці. На нашыя пытанні, ці магчыма перанесці нашу імпрэзу на больш познія тэрміны, мы пачулі толькі няўцямнае мармытанне"*, – кажа Губарэвіч.

Паводле яго словаў, невядома – ці то быў загад ад уладаў сарваць мерапрыемства, ці то адміністрацыя базы адпачынку перастрахавалася, каб не мець праблем з гэтымі самымі ўладамі: *"У любым выпадку мы маем чарговае пацвярджэнне, наколькі абсурднымі становяцца паводзіны людзей у краіне, дзе пануе атмасфера страху"*.

Губарэвіч падкрэслівае, што Рух "За Свабоду" мае дзяржаўную рэгістрацыю, але нягледзячы на легальны статус не можа правесці ўнутранае мерапрыемства ў публічнай установе: *"На восень у нас запланаваны з'езд. Улічваючы сітуацыю з адзначэннем 5-годдзя нашай арганізацыі, немагчыма спадзявацца, што мы зможам беспраблемна правесці з'езд, хаця гэта гарантуецца заканадаўствам аб свабодзе сходаў і грамадскіх арганізацыях"*.

P.S. Але нягледзячы ні на што – мы рушым і дойдзем да сапраўды незалежнай і еўрапейскай роднай краіны! Віншуем сябраў Руху і яго прыхільнікаў з пяцігоддзем арганізацыі і зычым сустрэць дзесяцігадовы юбілей у менавіта такой Беларусі!

# Нашы колеры

**Бел-чырвона-белую хвалю прымеркавалі актывісты Руху "За Свабоду" да 17-й гадавіны БССРаўскага рэваншу ў Беларусі.**



Былі выраблены бел-чырвона-белыя стужкі да гадавіны рэферэндуму, што прайшоў у Беларусі 14 траўня 1995 годзе і паводле якога ўлады змянілі нацыянальную сімволіку, а таксама абмежавалі ўжытак беларускай мовы.

Такой стужкай не толькі травеньскімі днямі можна прадэманстраваць пашану да нацыянальных сімвалаў, павязаўшы яе на антэну аўтамабіля, на руль ровара, вопратку, заплечнік. Будзе глядзецца бел-чырвона-белая стужка і павязанай на ілбе як аздоба да прычоскі. Ці на дрэве каля пад'езда.

Пытайцеся пра стужкі ў офісах Руху "За Свабоду" (пр-т Незалежнасці, 80-73; тэлефон – 280-88-63) і Партыі БНФ (Чарнышэўскага, 3; 284-50-12). Гэтаксама бел-чырвона-белыя стужкі будуць распаўсюджвацца актывістамі Руху "За Свабоду" ў розных гарадах Беларусі. Як гэта было ўласна ў гадавіну ганебнага рэферэндума.

*"Ужо цэлае пакаленне беларусаў вырасла, не ведаючы нашай нацыянальнай сімволікі. І мэтай акцыі было нагадаць грамадзянам пра нацыянальны сцяг, якога мы пазбавіліся ў выніку рэферэндуму 1995 года. Таксама мэтай акцыі была падтрымка Сяргея Каваленкі, які адбывае пакаранне менавіта за нацыянальны сцяг,"* – кажа каардынатар Руху "За Свабоду" па Брэсцкай вобласці **Зміцер Траццяк**.

Рэферэндум-1995 стаў першым у гісторыі незалежнай Беларусі. Ён прайшоў 14 траўня з ініцыятывы прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг былі замененыя пасля яго на крыху мадыфікаваную сімволіку БССР (герб з каласкамі і чырвона-зялёны сцяг). Апрача таго, рускай мове быў нададзены статус дзяржаўнай. Можна сказаць, з рэферэндуму пачалася чарговая хваля русіфікацыі.

Газета выдаецца Рухам "За Свабоду". Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 22.05.2012 г. Кантакты Рэдакцыі: тэлефон: 2808863, е-пошта: info@pyx.by